# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 31 (2277) 30 ліпеня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)


ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ



**27 ліпеня ўжо паспелі пазначыць у календары: «Дзень абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларускай ССР, Дзень незалежнасці». У гэты дзень у 1990 годзе была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. А напрыканцы леташняга, калі дэпутаты Вярхоўнага Савета «дамучвалі» рэестр аб дзяржаўных святах, у яго трапіла і дата 27 ліпеня. Тады над будынкам Дома ўрада ўжо быў узняты бел-чырвона-белы сцяг Рэспублікі Беларусь. Але па-ранейшаму за спіной бронзавага Леніна позірк упіраецца ў герб БССР. Гэта вельмі сімвалічна: з аднаго боку, нас асяняе сцяг незалежнасці, а з другога, моцна трымаюць карані савецкага мінулага.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ВАС ЧАКАЕ МІЖНАРОДНАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСІСТЫКІ*

## МЫ ПАТРЭБНЫ СВЕТУ

Вясной мінулага года ў газеце «Голас Радзімы» з'явілася аб'ява, якая запрашала на вучобу ў Міжнародную школу беларусістыкі ўсіх, хто цікавіцца Беларуссю, яе культурай, мінуўшчынай і сучаснасцю, хто хоча вывучаць яе старажытную самабытную мову. Летась, працуючы па месяцу, школа мела два выпускі — у ліпені і жніўні. Яе заснавальнікі і выкладчыкі зразумелі, што справа, якую яны распачалі, патрэбная і карысная. Напярэдадні новай летняй сесіі, якая будзе працягвацца з 1 па 25 жніўня, у рэдакцыю прыйшоў дырэктар Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры дацэнт **Уладзімір НАВУМОВІЧ.** Ён не хаваў мэты свайго візіту: школе патрэбна рэклама. Каб той, хто цікавіцца незалежнай Беларуссю, яе мовай і культурнымі здабыткамі, не задумваючыся, ехаў да нас. Сярод заяў і пісьмаў тых, хто жадае сёлета вучыцца ў МШБ, нас зацікавіў ліст нашага земляка з Бельгіі Янкі Жучкі, які пісаў: «Я маю сына, які зацікаўлены вашай ініцыятывай і мае жаданне вывучаць беларускую мову. Ён працуе ў Мюнхене, валодае фламандскай, французскай, ангельскай, нямецкай мовамі. На вялікі жаль, беларускай мовы не ведае. Пытанне маё: ці ёсць магчымасць для тых, хто не мае ніякай базы, хутка авалодаць беларускай мовай?»

**— А і сапраўды, Уладзімір Аляксандравіч, ці магчыма за адзін месяц авалодаць мовай? Што даюць курсы вашым навучэнцам?**

— Канешне, дасканала за месяц мовай не авалодаеш, але асноўны фундамент будзе закладзены. Тым больш, хто хоча, можа прыехаць да нас і на 2, і на 3 месяцы. Заняткі вядуцца па агульнай або індывідуальнай праграмах. Рабочы дзень надзвычай напружаны: заняткі непасрэдна мовай — лексіка, марфалогія, сінтаксіс, інтэнсіўная штодзённая моўная практыка, лекцыі па літаратуры, гісторыі, культуры, праца ў архівах і біб-

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

*ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ 1991 ГОДА*

## «МНОГАЯ ЛЕТА» Ў ГОНАР ЛІТАРОВІЧАЎ, або ШТО ТРЭБА ЧАЛАВЕКУ ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

У дом да спадароў Літаровічаў у адзін з выхадных мяне прывезла Надзя Кудасава. Сказала: «Не пісьменнікі, не палітыкі, не прафесары і не адвакаты, але ж мае найлепшыя сябры».

Ліза Літаровіч — маленькая, зграбная, вясёлая і рухавая жанчына (я і ўявіць не магла, што яна маці траіх дарослых дзяцей і нават ужо бабуля: так выдатна выглядае) хуценька пачала збіраць на стол. Яе муж, Лявон Літаровіч, пасля нядаўняй цяжкай аперацыі на сэрцы быў дома, адчуваў сябе някепска і з задавальненнем прыйшоў пагутарыць з госцяй з Беларусі.

— Хварэць у Амерыцы дорага? — адразу папыталася я.

— Безумоўна, вельмі дорага. Асабліва, калі трэба рабіць складаную аперацыю, доўга ляжаць у шпіталі. А мяне ўжо двойчы апeрыравалі, два разы адкрывалі жылы да сэрца. Але я маю «іншурэнс». Што гэта такое? Калі ты працуеш на нейкім прадпрыемстве, то яно за кошт сродкаў сацыяльнага забеспячэння аплачвае тваё медыцынскае абслугоўванне. Калі майго «іншурэнс» не хапае на пакрыццё расходаў, можна ўзяць з жончынага. Мне, у прыватнасці, нягледзячы на тое, што давялося некалькі разоў ляжаць у шпіталі, лячэнне нічога не каштавала. Увогуле мы матэрыяльна добра забяспечаны. Усё, што трэба чалавеку для жыцця, маем.

Апошнія словы Лявона Літаровіча прымусілі мяне задумацца. Што ж чалавеку ўвогуле трэба для жыцця? Дом, сям'я, работа, воля. Здаецца, не так ужо і многа. Праўда, кожны ўкладвае ў гэтыя паняцці свае ўяўленні. У амерыканцаў дом — двух-, трохпавярховы катэдж з гаражом для двух, а то і трох аўтамабіляў (для кожнага дарослага члена сям'і). Менавіта такі дом у Літаровічаў. Жывуць яны ў ім утраіх. Ліза, Лявон і іх старэйшы сын Расціслаў, які пасля няўдалага шлюбу вярнуўся да бацькоў і збіраецца быць з імі толькі часова. У Амерыцы ўвогуле не прынята жыць з дарослымі дзецьмі. Так, да прыкладу, малодшы сын Літаровічаў, хаця і не мае сям'і, набыў ужо ўласны дом. Дачка з мужам пасяліліся таксама асобна.

Лявон Літаровіч збольшага паказаў мне свае апартаменты. Лесвічка ўніз вядзе на так званы гаспадарчы ніжні паверх. Тут размешчаны аўтаматычныя машыны для мыцця і сушэння бялізны, адзення. Гаспадыні застаецца толькі папрасаваць. Лесвічка ўверх — у жылыя пакоі.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

РАСІЯ — БЕЛАРУСЬ

## ПАЧАТАК КАНФЕДЭРАЦЫІ?

20 ліпеня ў Маскве адбылася сустрэча ўрадавых дэлегацый Расіі і Беларусі на чале з Ягорам Гайдарам і Вячаславам Кебічам. Яна завяршылася падпісаннем каля трыццаці дакументаў. З гэтага аб'ёмістага пакета каля паўтара дзесятка дакументаў, якія датычаць ваенна-палітычных і эканамічных праблем, было падпісана прэм'ерамі дзвюх краін. Прыкладна столькі ж пагадненняў і пратаколаў падпісана на ўзроўні намеснікаў старшыні ўрада, міністраў. Сярод важнейшых з іх — пагадненне аб умовах паставак прадукцыі, тавараў, сыравіны, прадуктаў харчавання паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі Расіі і Беларусі, пагадненне аб цэнаўтварэнні на прадукцыю міждзяржаўнага абмену, пагадненне аб падатковай палітыцы, дагавор аб супрацоўніцтве ў ваеннай галіне.

Адказваючы на пытанні журналістаў пасля цырымоніі падпісання, в. а. прэм'ер-міністра Расіі Ягор Гайдар заявіў: «Сёння мы сфарміравалі базу для цесных, вельмі цесных адносін Расіі з Беларуссю, заклалі вельмі добрую аснову станаўлення самых цесных эканамічных, палітычных, абаронных, культурных сувязей паміж нашымі незалежнымі дзяржавамі...»

Ягор Гайдар сказаў, што многія з падпісаных дакументаў па свайму зместу «выходзяць далёка за межы дагаворанасцей у рамках СНД». Сярод іх ён назваў пагадненне аб каардынацыі абароннай дзейнасці, аб размяшчэнні стратэгічных сіл Расіі на тэрыторыі Беларусі, пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне транспарту, у тым ліку транспарціроўкі нафты і газу.

Адказваючы на пытанне, ці можна лічыць дасягнутыя дагаворанасці «пачаткам канфедэрацыі» ў рамках СНД, Ягор Гайдар сказаў, што іх можна разглядаць «крокам у гэтым напрамку». З такой трактоўкай пагадзіўся і кіраўнік беларускага ўрада Вячаслаў Кебіч.

АМАЛЬ ШТО СЕНСАЦЫЯ

## АПАРАТ «ШТУЧНАЯ НЫРКА»

У Барысаве ўступіла ў строй прадпрыемства па выпуску апаратаў «штучная нырка». Яго гадавая магутнасць — 2 мільёны дыялізатараў. Барысаўскі завод медпрэпаратаў і германская фірма «Фрэзеніус» стварылі сумеснае прадпрыемства «Фрэбар». Нямецкі бок перадаў нам тэхналогіі і спраектаваў вытворчасць апарата «штучная нырка». Беларусы вялі будаўніцтва. Савет Міністраў рэспублікі выдзеліў на гэтыя мэты крэдыт у 60 мільёнаў рублёў. Спецыялісты набіраліся тут жа, у Барысаве, а падрыхтоўку прайшлі ў Германіі.

Важна падкрэсліць, што барысаўскае прадпрыемства па выпуску апаратаў «штучная нырка» — першае не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім былым СССР.

ПАЛЯВАННЕ

## РАДЫЕАКТЫЎНЫ ЗВЕР

У вёсцы Малінаўка, што ў Лоеўскім раёне на Гомельшчыне, у сем'ях паляўнічых медыкі-радыёлагі выявілі ў арганізмах дарослых і дзяцей павышаныя дозы радыеактыўных накапленняў.

Каменціруючы гэты факт, дырэктар Інстытута лесу Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь прафесар Віктар Іпацьеў адзначыў, што паляўнічыя трафеі, як правіла, не праходзяць радыеактыўны кантроль. Пробы ж, узятыя ў дзікіх звяроў, часцей за ўсё аказваюцца са значным перавышэннем устаноўленых норм забруджвання.

ЭКАЛОГІЯ І ЧАЛАВЕК

Некалі Мухавец быў адной з найпрыгажэйшых і найчысцейшых рэк на Брэстчыне. Аднак цяпер у ёй купацца наўрад ці можна без рызыкі для здароўя. І віной таму сцёкавыя воды, якімі шматлікія прадпрыемствы, размешчаныя ўздоўж яе берагоў, атручваюць раку. У сотні разоў перавышаюць санітарную норму ўсемагчымыя прымесі як хімічнага, так і бактэрыялагічнага саставу, што знаходзяцца ў вадзе.

А цяпер рака трапіла ў новую бяду. Ля Брэста, у пойме Мухаўца, ідзе масавая высечка бярозавых і вольхавых гаёў, знішчаюцца і векавыя дрэвы. І ўсё для таго, каб захапіць пад дачныя ўчасткі, сады і агароды ўрадлівую прыбярэжную зямлю. Раней была яна ў ведамстве адной з воінскіх часцей. Цяпер належыць гарвыканкому. Але ён на законных падставах чамусьці не можа спыніць гэтае самавольства і самаўпраўства. Бяздзейнічае і гарадское таварыства аховы прыроды. А яго ж супрацоўнікам, відаць, вядома, што за 500 метраў ад ракі нельга весці ніякіх работ.



НА ЗДЫМКУ: гэтыя дачнікі-«самазванцы» вырашылі разбіць свой участак у дзесяці метрах ад ракі — маўляў, паліваць градкі будзе лягчэй.

ПРАЕКТЫ

## З ХУТКАСЦЮ 300 км/г

Распрацоўваецца праект стварэння да 2 000 года высокахуткаснай пасажырскай магістралі Варшава — Мінск, на якой цягнікі змогуць развіваць хуткасць звыш 300 кіламетраў у гадзіну. Разглядаюцца дзве альтэрнатыўныя трасы: праз Тэрэспаль — Брэст і Брузгі — Гродна. Мяркуецца, што ўжо да верасня беларускі бок падрыхтуе абгрунтаванне праектаў для разгляду іх групай экспертаў. Тым часам нямецкія калегі зоймуцца пошукамі крэдытаў пад гэты праект.

Участак Варшава — Мінск хутчэй за ўсё стане часткай трасы Парыж — Масква, якая ператворыцца да пачатку XXI стагоддзя ў асноўную пасажырскую магістраль Еўропы.

АКЦЫЯ «ФРЫДАМ РАЙД-92»



Гуманітарная дапамога бывае рознай. На мінулым тыдні яна была музычнай. У госці да мінчан завіталі папулярны амерыканскі выканаўца і кампазітар Дэвід Мэйсан і рок-гурт «Энджэлес Дэманз». Яны не толькі прапанавалі добрую музыку, але і пазнаёмілі з мадэлямі сусветнавядомых матацыклаў «Харлей-Дэвідсан». Дарэчы, мінчане мелі магчымасць бачыць іх напярэдадні канцэрта на праспекце Францішка Скарыны. Амерыканцы засталіся задаволенымі якасцю галоўнай магістралі беларускай сталіцы — іх хуткасныя матацыклы беглі па ёй без перашкод. Візіт у Мінск — частка дабрачыннай міжнароднай акцыі «Фрыдам Райд-92».

НА ЗДЫМКУ: амерыканцы на галоўнай магістралі Мінска.

АДЗІНАЯ БЕЛАРУСКАЯ

## «ПАГОНЯ» Ў ГРОДНЕ

Першы нумар штотыднёвіка «Пагоня» выдаў гродзенскі абласны культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына», які з'яўляецца рэгіянальнай філіяй Згуртавання беларусаў свету. Цяпер у горадзе, нарэшце, ёсць адзіная грамадска-палітычная беларуская газета. У Гродне з 1919 года не выходзіла ніводнага перыядычнага выдання на беларускай мове.

ДУМКІ З НАГОДЫ

## ЦІ СТАНЕ ДЗЕНЬ 27 ЛІПЕНЯ ДНЁМ 25 САКАВІКА?

Бываюць святы, якія не то што не ў радасць, а нейкі нямілы абавязак — трэба яго адбыць. Дзень 27 ліпеня нават не абавязвае ні да чога (прынамсі, абсалютную большасць нашага абыякавага, збеганага ў пошуках надзённай пажывы грамадства). Каб не абвестка адміністрацыі на заводах, установах, што ў панядзелак — выхадны, то ніхто і не ўспомніў бы пра Дзень незалежнасці. Што да калгасаў, дык там не да святаў: настае ўборка. А гараджане, вядома, узрадаваліся з яшчэ аднаго вольнага дня: можна папрацаваць на дачы ці адпачыць пасля гэтай пякельнай спякоты дзе-небудзь ля вады. Б'юся аб заклад, што высокія думкі аб свабодзе, незалежнасці, суверэннасці Беларусі ў гэты дзень не прыходзілі да галавы, бадай што, нікому.

Незалежнасць. Пры гэтым слове робіцца годнай пастава і спявае акрыленая добрай надзеяй душа суседа-літоўца, латыша, грузіна і нават татарына. Толькі не беларуса. Ці вінаваціць яго за гэта? Барані Бог, бо тое, што вынес ён за сваю гісторыю, можа не вынес бы любы іншы народ. Пазбаўленых свайго стрыжня — нацыянальнай свядомасці, дазволіўшых адабраць у сябе мову і нашы прадзедаўскія звычаі, інтэрнацыяналізаваць аж да адмаўлення ўласнай гісторыі, нас і цяпер раздзіраюць супярэчнасці. Адна частка сумуе па тых часах, калі мы, беларусы, былі «з братняю Руссю», другая гатова аднавіць «крэсы ўсходнія», бо лічыць сябе не беларусамі, а палякамі. «Як жа мы будзем без Расіі?» — спалохана азіраюцца на Усход інтэрнацыяналісты і ўжо цешаць сябе надзеяй: можа, апошняя сустрэча Кебіча з Гайдарам, якую называюць «крокам да канфедэрацыі», станецца крокам у нядаўняе мінулае. «Звышсвядомыя» грамадзяне рэспублікі з былой Заходняй Беларусі, бачачы нацыянальную немач маладой дзяржавы, настроены рашуча інакш: чым быць такімі беларусамі, то лепш — палякамі. Ёсць і яшчэ адна катэгорыя людзей. Іх філасофія: хай бы нас забралі ці немцы, ці амерыканцы, ці нават японцы — абы парадак быў і ў магазінах поўныя паліцы.

На мой погляд, усведамленне свабоды, незалежнасці прыходзіць толькі ў працэсе барацьбы за яе. Калі шукаць аналогіі, то лепшай, чым Акт 25 сакавіка 1918 года, не бачу. Чаму да гэтага часу, з года ў год гэты дзень шырока і ўрачыста адзначаецца ў беларускім замежжы? Таму што абвяшчэнне БНР было канчатковым актам таго пакалення беларусаў, якое ведала, чаго дамагаецца. А менавіта: людзьмі звацца, быць гаспадарамі ў сваім доме, жыць сваім розумам, а не па інструкцыях з Варшавы ці Масквы. Бо мы — народ, які мае сваю гісторыю і мае права так ладзіць сваю будучыню, як таго сам хоча. А думкай народа кіраваліся тагачасныя яго лідэры, якіх мы доўгі час абзывалі буржуазнымі нацыяналістамі.

Дзень 27 ліпеня 1990 года не быў тым актам, што вянчае перамогу ў барацьбе за незалежнасць. Калі паняцце барацьбы за суверэнную Беларусь да каго і стасуецца, то толькі да парламенцкай апазіцыі БНФ «Адраджэнне». Але марай апазіцыі была БНР, не БССР. Пракамуністычнай большасці наогул не трэба былі ніякія дэкларацыі пра незалежнасць. Проста на яе напіраў працэс распаду СССР, празваны тады «парадам суверэнітэтаў». БССР замыкала гэты парад. Падзецца ўжо не было куды, і парламенцкая большасць атрымала непажаданае дзіця — суверэнную рэспубліку. Трымаючы яго на руках, павівальныя бабкі ўсё яшчэ спадзяваліся, што гэта палітычная гульня ў вымушаных абставінах, што вернецца час цвёрдай рукі і тады дэкларацыя будзе проста казусам перабудовы.

Падзеі жніўня 1991 года, а затым — снежня, калі Беларусь стала ініцыятарам стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, канчаткова вызначылі шлях: хочаш — не хочаш, а суверэнітэт.

Ці змянілася ад гэтага што ў свеце? Бадай, асноўнае, што свет пачынае цяпер адрозніваць, што такое Раша і што такое цяпер гэтая Беллараша. І не толькі адрозніваць, а і ведае больш-менш, дзе цяпер гэтая Беларaша знаходзіцца. Прынамсі, афіцыйныя асобы ўведалі дарогу ў Мінск: ужо больш за 50 краін устанавілі з намі дыпламатычныя адносіны, да нас прыбываюць усё новыя паслы. Да таго ж цяпер Мінск — і некаранаваная сталіца Садружнасці. І нашы палітыкі, як дзеці, цешацца візітнай мітусні высокіх гасцей ці то з СНД, ці то з ААН, ці то з МВФ.

Дбаючы пра твар суверэннай рэспублікі, Савет Міністраў адшкадаваў валюту на два аўтамабілі маркі «Форд-Скарпіа» для абслугоўвання афіцыйных дэлегацый. Хутка набудуць і 14 матацыклаў маркі «BMW» для ганаровага эскорта. Так што да чарговага Дня незалежнасці мы прыйшлі, як раней казалі, з пэўнымі поспехамі. Толькі вось гэта не цешыць люд паспаліты. «Лепей бы замест гэтых «Фордаў» купілі цукру таннага або мяса ўдосталь», — бурчыць незалежны беларус.

Надоечы выступаючы па тэлебачанні, Часовы павераны ў справах ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц са скрухай гаварыў, што яго пужае распаўсюджаная сярод беларусаў думка: хай бы найперш была каўбаса, а з незалежнасцю можна і пачакаць.

Пакуль мы будзем жыць па мерках страўніка, не стане для беларусаў дзень 27 ліпеня Днём незалежнасці.

В. КРАСЛАЎСКІ.

САМ-НАСАМ З ДЭПУТАТАМ

# МАЕМ ШАНЦ ВЫЖЫЦЬ, КАЛІ АДЧУЕМ АДКАЗНАСЦЬ ЗА СВОЙ ЛЁС

Пры сустрэчы з Алегам Трусавым, намеснікам старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, я наважылася пагутарыць пра яго дэпутацкую працу, пра сённяшні дзень нашай рэспублікі. А пачалася размова з майго назірання. Я заўважыла, што так шмат, як Трусаў, у друку выступае мала хто з дэпутатаў. Алег Анатольевіч растлумачыў, што гэта, па-першае, своеасаблівая барацьба з ідэйнымі праціўнікамі, а, па-другое, абавязак дэпутата. Што гэта значыць?

У Законе БССР «Аб статусе народнага дэпутата Беларускай ССР» падкрэсліваецца, што дэпутат «перыядычна, але не радзей аднаго раза ў год, абавязаны рабіць справаздачу аб сваёй рабоце, ходзе выканання перадвыбарнай праграмы»...

Алег Трусаў выступіў са справаздачай у мінулым годзе ў газеце «Добры вечар». Сёлета рыхтуе новую. У ёй ён расказвае аб праблемах сваіх выбаршчыкаў.

— Ці сталі яны іншымі за прайшоўшы год?

— У асноўным засталіся тымі ж. Па-ранейшаму людзей хвалююць бытавыя пытанні. Шмат хто не мае прыстойнага жылля. Людзей непакоіць экалогія горада. Шмат пытанняў наконт пенсій. Сярод новых праблем — цяжкасці людзей, рэпрэсіраваных у 30—40-я гады. Ім патрэбна маральная і матэрыяльная рэабілітацыя.

— Я ведаю, што вы член дэпутацкай групы...

— Так. Наша група мае назву «Зялёны Луг» (ад назвы раёна горада). Асноўная задача групы — ахова экалогіі раёна. Ды і іншыя пытанні лягчэй вырашаюцца разам. Людзі бачаць нашу работу, ведаюць сваіх дэпутатаў, што бывае, дарэчы, не вельмі часта.

— На маю думку, звярнуцца за дапамогай да дэпутата чалавека прымушаюць нейкія надзвычайныя абставіны. Ці так гэта?

— Як правіла, так. Але ж людзі розныя. Да мяне з просьбай палепшыць жыллёвыя ўмовы прыходзілі людзі, якія не мелі ў тым неабходнасці. Мабыць, пачулі, што я некаму дапамог, і вырашылі паспрабаваць: раптам пашанцуе?

Я падумала, можа справа ў тым, што мы сябе адчуваем трошкі дзецьмі? Нехта працуе, нібы гуляе. А некага пакрыўдзілі, і ён шукае дзядзьку, які яго пашкадуе. Сам жа не здольны сябе абараніць. Канешне, часта бываюць сапраўды крытычныя сітуацыі, і людзі бездапаможныя. Але ж для астатніх павінна існаваць паняцце адказнасці за свой лёс.

Калі я падзялілася сваімі развагамі з А. Трусавым, ён назваў псіхалогію гэтых людзей-дзетак рабскай.

— Наша вялікая дзяржава ўмела добра рабіць сацыялістычных нявольнікаў, — сказаў Алег Трусаў. — Бывалі выпадкі, калі прыгонным давалі волю, але яны адмаўляліся ад яе, бо былі няздольныя думаць і адказваць за сваё жыццё.

Я часам пытаю сябе, ці не ў гэтым прычына многіх нашых бедаў, стану культуры. Дзякуй Богу, так жывуць не ўсе, у тым ліку, мой субяседнік. Зусім нядаўна на Беларусі пачулі пра справу з былым партархівам.

— Алег Анатольевіч, вы па свайму службоваму абавязку прымалі ў ёй удзел?

— Давялося. Усе ведаюць пра цяжкі крытычны стан Ленінскай бібліятэкі. Але апошнім часам было выдзелена месца для новага будынка пад бібліятэку, затрачаны грошы на яго праект. Аднак Міністэрства культуры вырашыла ігнараваць гэта і аддаць бібліятэцы памяшканне былога партархіва, а сам архіў знішчыць. Тут і пачалася вайна паміж міністэрствам і Галоўным архівам. Апошні прапаноўваў злучыць два архівы, Міністэрства культуры ж было вельмі «заклапочана» лёсам бібліятэкі.

— Вы бачыце тут нейкія скрытыя матывы?

— Я ведаю, што праблема бібліятэкі была вырашана ўсяго на некалькі год. Беларусі патрэбны новы будынак Дзяржаўнай бібліятэкі, аднак Міністэрству культуры не хочацца траціць грошы на яе. Што тычыцца прапановы знішчыць партыйны архіў, то тут адна прычына: многім наверсе неспакойна ад таго, што ў архіве засталіся на іх нейкія дакументы.

— Вы гаварылі, што Міністэрства культуры шкадуе грошай на новую бібліятэку. Тым не менш асігнаванні на культуру ў гэтым годзе вышэйшыя, чым у мінулым.

— Не ўсё, дзякуй Богу, ва ўладзе Міністэрства культуры. На культуру раней выдзялялася 0,78 працэнта а зараз 2,3 працэнта ад дзяржаўнага бюджэту. Толькі дзякуючы гэтаму, на Беларусі не зачыніўся ніводны дзяржаўны тэатр, музей. Ёсць магчымасці выжыць і культуры, і грамадству. Але для гэтага ўсім нам і кіраўніцтву трэба стаць адказнымі людзьмі.

— Вы маеце на ўвазе нейкіх пэўных кіраўнікоў?

— Напрыклад, я не разумею, як прэзідэнт Расіі бярэ на сябе адказнасць назваць амаль пэўны год, калі яго народ будзе жыць добра. Гэта несур'ёзныя абяцанні. Усё вырашае чалавек. Ад яго працы і слова залежыць будучыня. Калі гаварыць пра сённяшні дзень, то менавіта ад кожнай асобы залежыць выбар улады на Беларусі. Народ вырашыў праводзіць рэферэндум. Ён жа і скажа на ім сваё слова. А калі ён захоча жыць яшчэ тры гады з існуючым парламентам, то так яно і будзе.

— Прабачце, але ўжо аднойчы мы трацілі грошы на такую справу. І памятаем вынікі.

— Зараз усё павінна быць на больш цывілізаваным узроўні. Галоўнае, каб на рэферэндуме прысутнічала інспекцыя ААН. Толькі назіральнікі гэтай арганізацыі здолеюць забяспечыць нам выбары без парушэння закону.

— Калі ж адбудзецца рэферэндум?

— У верасні будзе сесія Вярхоўнага Савета, яна і зацвердзіць час правядзення рэферэндуму. А ў пачатку наступнага года павінна адбыцца выбарчая кампанія. Яна будзе працягвацца два месяцы. Пасля выбараў мы спадзяёмся мець новы парламент. І калі людзі падыдуць да выбараў з усёй адказнасцю, яны вырашаць свой лёс.

**Алена СПАСЮК,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.**

*З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ*




**Непадалёку ад нашай рэдакцыі ёсць дом з прадуктовым магазінам на першым паверсе, які людзі, што даўно жывуць у гэтым раёне, часам называюць «камунізмам». А сталася гэта з тае прычыны, што многа год назад на тым доме ззяў уначы і быў відаць здалёк лозунг: «Наша мэта — камунізм». Мэты нашы даўно змяніліся і сталі яшчэ больш незразумелымі, чым цярпліва чакаемы камунізм, пра які большасць насельніцтва краіны ведала толькі тое, што пры ім будзе шмат каўбасы і не будзе грошай. Велізарныя літары непрыкметна зніклі разам з няспраўджанымі надзеямі, засталася толькі смешная сёння назва магазіна, у якім прадуктаў не больш, чым у любым іншым.**

**Так, за апошні час некуды зніклі многія прыкметы мінулых часоў, што раней былі абавязковымі і мелі назву «наглядная агітацыя». На плошчы Калініна ўбралі выказванне ўсесаюзнага старасты М. Калініна, які некалі сцвярджаў, што «СССР — краіна дружбы народаў». Некалькі дзён валяліся на зямлі літары, якія раней красаваліся на прыгожым доме на плошчы Якуба Коласа і заклікалі «краіну саветаў квітнець». Аднак не варта думаць, што з бадзёрымі заклікамі наша сталіца назаўсёды развіталася.**

**Лозунгам «Народы СССР едины» ўсё яшчэ сустракае горад кожнага, хто ўязджае ў Мінск Лагойскім трактам. Хаця ўжо даўно рассыпаўся СССР, а аб нашым адзінстве засталіся адны ўспаміны. З любой кропкі Прывакзальнай плошчы Мінска можна прачытаць: «Мы дружбою, братством, единством сильны». Не ведаю, як наконт моцы, а што тычыцца сяброўства і братэрства ў краіне, дзе амаль кожны дзень успыхваюць новыя ачагі грамадзянскай вайны, лічу, што гэта — смелая заява. Не вельмі зразумелы, але, зноў жа, здалёку бачны надпіс на адным з карпусоў Мінскага радыётэхнічнага інстытута: «Навука — вытворчасці». Цікава было б даведацца, як уплывае гэты лозунг на навукова-тэхнічны прагрэс. Магу сцвердзіць толькі, што ніхто з прахожых і нават тыя, хто штодзённа бывае ў гэтым будынку, не змаглі адказаць на пытанне, што на ім напісана...**

**І ўсё ж такі старыя лозунгі паступова знікаюць з нашых вуліц, але святое месца пустым не бывае. Змяняюцца часы, змяняюцца заклікі. Абяцанні хуткага дастатку і светлай будучыні змянілі шматлікія прапановы нешта купіць, некуды ўступіць, на нешта падпісацца. У сваёй надзейнасці і гатоўнасці дапамагчы нас запэўніваюць шматлікія і недаўгавечныя фірмы. «Вы будзеце адчуваць сябе з намі, як за каменнай сцяной», — абяцае з абдзёртага, струхлелага плота страхавая фірма. «Мы задаволім вашу прагу праўды», — сцвярджае новая газета. Пра тое, што «рэклама — рухавік гандлю» нам гаварылі яшчэ тады, калі рэкламы ў нас амаль што не было зусім. Сёння ў нас рэкламуюць у асноўным тое, што нельга купіць, а паслугі, якімі нас запрашаюць карыстацца, нам альбо не па кішэні, альбо проста не патрэбны.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**




# ВАЛЮТА ДЛЯ РЭСПУБЛІКІ

Беларусь прынята на правах раўнапраўнага члена ў Міжнародны валютны фонд і Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця. Пра гэта паведаміў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч на прэс-канферэнцыі для журналістаў. Першай у гэтае супольніцтва з краін СНД была прынята Расія, другой — Беларусь, якая стала 166-й краінай у МВФ і 162-й у МБРР.

У выніку праведзеных перагавораў, на якіх нашу дэлегацыю ўзначальваў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі М. Мясніковіч, дасягнута дамоўленасць аб выдзяленні Беларусі рэабілітацыйнай пазыкі ў суме каля 80 мільёнаў долараў. Гэтыя грошы пойдуць на падтрымку прадпрыемстваў, што зведваюць цяжкасці з-за адсутнасці інвалютных сродкаў для імпарту сыравіны і матэрыялаў, будуць садзейнічаць больш інтэнсіўнаму развіццю эканомікі, заваяванню аўтарытэту беларускай прадукцыі на міжнародным рынку. МБРР выказаў гатоўнасць тэрмінова накіраваць у нашу рэспубліку місію для канкрэтнай прапрацоўкі ўжо намечаных пунктаў, каб выдзеліць пакеты пазык, пачынаючы ўжо з верасня гэтага года.

Асноўная функцыя абедзвюх прэстыжных арганізацый—рэгуляваць і стабілізаваць гандлёвыя адносіны паміж краінамі.

Патрабаванні ж простыя: кожная з краін павінна жыць па сродках—траціць столькі, колькі вырабляе і зарабляе.

**ХТО ДАПАМОЖА ЗАМЕЖНАМУ СУАЙЧЫННІКУ?**

# НАШЫМ ЛЮДЗЯМ У ГАВАНЕ ТРЫВОЖНА

Адыход у мінулае ранейшага светапарадку, пры якім існавалі дзве палярныя сістэмы, сімваламі якіх былі СССР і ЗША, моцна адбіўся на ўсіх сферах жыццядзейнасці Кубы. Перш-наперш на і без таго слабаэфектыўнай гаспадарцы. А яна была, як вядома, арыентавана галоўным чынам на пастаўкі з Савецкага Саюза і іншых краін тагачаснага сацыялістычнага лагера. Купляючы кубінскі цукар, Расія, як пераемніца СССР, пераходзіць з прэферэнцыйных цэнаў на сусветныя. Экспарт сваёй нафты таксама ажыццяўляе па міжнародных стандартах.

Куба перажывае вастрэйшы энергетычны крызіс, перасаджваецца з самаходаў на веласіпеды. Гэтыя катаклізмы, пахаладанне ў адносінах паміж СНД і Кубай, непасрэдна закранаюць лёс і становішча беларускіх жанчын у кубінскім грамадстве. Маю на ўвазе нашых суайчынніц, хто ў розныя гады выйшаў замуж за кубінцаў, навучэнцаў і студэнтаў розных акадэмічных установ Беларусі. Аб тым становішчы, штораз сілячыся заглушыць непакой і трывогу ў голасе, расказвала днямі ў рэдакцыі спадарыня N. з Гаваны, папрасіўшы не называць яе імя на старонках газеты.

— Беларускія жанчыны на Кубе, а нас усіх з былога СССР называюць там «савецікас», знаходзяцца ў складанай сітуацыі. Вытлумачыць яе можна з двух пунктаў гледжання. Адзін адносіцца да палітыка-псіхалагічнага клімату на востраве ўвогуле і вакол нас, у прыватнасці. Другі — да фінансавых праблем, магчымасці выезду за межы краіны.

Хачу адразу падкрэсліць, што цэнтральная расійская прэса часамі даволі аднабока, павярхоўна, а калі і тэндэнцыйна асвятляе развіццё падзей на Кубе. Пішуць, напрыклад, аб падзенні аўтарытэту Фідэля Кастра. Гэта не так. У народзе, асабліва ў моладзі, па-ранейшаму жыве фанатычная вера ў Камандантэ. Менавіта гэты фанатызм народнай масы і страшыць. Дастаткова аднаго паспешлівага, неабдумана кінутага Фідэлем слова — можа нават і без злоснага намеру,— каб натоўп перайначыў яго па-свойму і пайшоў на расправу з «ворагамі сацыялізму». Хоць адносіны да нашых людзей, на першы погляд, застаюцца найлепшымі, але раптоўны разрыў супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам, антыамерыканскі ваяўнічы настрой абуджаюць у падсвядомасці значнай часткі кубінцаў калектыўныя сімптомы варожасці. А яна пераходзіць і на нашых мужоў, дзяцей. Хто за нас заступіцца? Ці ёсць у нашага ўрада планы выратавання з Кубы некалькіх соцень сваіх грамадзян? Бо гаворка ідзе не адно пра помсту вуліцы, але і пра кубіна-амерыканскае супрацьстаянне, якое немаведама чым можа скончыцца.

Цяпер другі пункт гледжання. У студзені гэтага года кубінскія ўлады прынялі пастанову, згодна з якой замежныя грамадзяне могуць выехаць з Кубы толькі адзін раз у 5 гадоў. Раней было магчыма раз у тры гады. Гэта значыць за кубінскія песа вы можаце адзін раз у пяць гадоў купіць білет на радзіму. Калі ласка, няма абмежаванняў на выезд пры наяўнасці ў вас свабодна канверсаванай валюты. А дзе яе ўзяць? На Кубе ж яна не мае абарачэння. І ў каго ў Беларусі пазычыш паўтары тысячы долараў на адзін білет? Праўда, ёсць яшчэ дадатковы канал, каб пры неабходнасці пакінуць востраў. У 1986 годзе было падпісана пагадненне аб эканамічнай узаемадапамозе паміж грамадзянамі Кубы і СССР. Многія рэспублікі СНД адмовіліся ад яго. У нас застаецца маленькая надзея, што Беларусь выкарыстае гэтае пагадненне. Іначай, як адправіш дзяцей на Бацькаўшчыну?

Чула я, што падчас жнівеньскага путчу летась амерыканцы прасілі прапусціць іх праз пагранічны кантроль аэрапорта. Маўляў, яны сядуць на ўзлётна-пасадачнай паласе і будуць чакаць, пакуль за імі прышлюць самалёт з Амерыкі. Яны і думкі не дапускалі, што дзяржава кіне іх у бядзе... А хто паклапоціцца пра нас?

Гуртавацца самім у нацыянальныя суполкі, каб прадстаўляць нейкую больш-менш афіцыйную сілу, у цяперашніх кубінскіх варунках проста небяспечна.

...Мая субяседніца зварочваецца да беларускіх суайчыннікаў свету, найперш да суседзяў у ЗША, з прапановай стварыць фонд падтрымкі беларускім жанчынам Кубы. Акрамя грашовай падтрымкі, ён дазволіў бы ажыццяўляць кантактаванне, абмен дэлегацыямі і г. д.

...У размове міжволі мы вярталіся да палітыкі. Нічога дзіўнага. Сёння, здаецца, увесь свет, стаіўшы дыханне, сочыць за разгортваннем падзей у гэтым рэгіёне Карыбскага басейна. Я ў 60-я гады з захапленнем назіраў за развіццём рэвалюцыі, дзейнасцю маладых «барбудас» на тагачасным Востраве Свабоды. Цяпер палітолагі на Захадзе і ў Расіі (якая, дарэчы, афіцыйна прызнала антыкастраўскія эміграцкія арганізацыі ў ЗША) прадракаюць хуткую дэмаралізацыю сацыялізму кубінскага ўзору. Тым не менш газета «Ньюсуік», якую не западозрыш у пракубінскіх сімпатыях, са спасылкай на экспертаў Пентагона піша: «Кубінцы настроены намнога больш па-антыамерыканску, чымсьці можна было чакаць, улічваючы іх гаротнае становішча». А спадарыня N. той думкі, што старэйшае пакаленне кубінцаў яшчэ выдатна памятае сваё бяспраўе і галечу да рэвалюцыі 1959-га года. Жыхары вострава, напэўна, лічаць за лепшае галадаць усёй мільённай грамадой, чымсьці назіраць, як жыруюць тысячы... Ідэя сацыяльнай роўнасці пусціла магутнае карэнне ў кубінскі «чырваназём». Да таго ж, як нагадала мне зямлячка з берагоў Мексіканскага заліва, краіна дасягнула добрых вынікаў якраз у сацыяльным накірунку: медыцыне, народнай адукацыі, спорце. І ад іх, вынікаў, адмаўляцца не жадае.

Тым не меней Куба стаіць перад выбарам далейшага шляху, жыццё патрабуе дэмакратычных перамен. Трэба думаць, што аб усім гэтым паклапоціцца сам кубінскі народ. Але пакуль ён будзе клапаціцца, пакуль родная Беларусь будзе ўжывацца ў новы статус незалежнай дзяржавы, будуючы спакваля дыпламатычныя структуры, беларускія суайчынніцы Кубы рыхтуюцца да неспакойнай гадзіны. І вялікае спадзяванне кіруюць на Усход, да Бацькаўшчыны.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**АД СЭРЦА ДА СЭРЦА**

# ДАБРАЧЫННЫ ЎКЛАД ФРК

ГАВОРАЧЫ аб гуманітарнай дапамозе, якую аказваюць замежныя суайчыннікі Радзіме ў яе змаганні з радыяцыйным нашэсцем Чарнобыля, нельга не адзначыць уклад і Федэрацыі рускіх канадцаў (ФРК). Нядаўна гэтая арганізацыя, сярод сяброў якой знаходзяцца, як вядома, і беларусы, перадала клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны «Аксакаўшчына» тры камп'ютэры і вітаміны. Іх кошт складае 15 633 канадскія долары.

А за год, лічачы ад жніўня 1991-га, ФРК ахвяравала хворым дзецям, што лечацца ў названай клініцы, звыш 111 тысяч канадскіх долараў. Гэта і валютныя пералічэнні, і закупка медыцынскага абсталявання, лекаў, вітамінаў.

З удзелам і дапамогай федэрацыі ўжо праз некалькі тыдняў у «Аксакаўшчыне» будзе запушчана ў дзеянне першая лакальная камп'ютэрная сетка. Яна паспрыяе больш якаснаму медыцынскаму абслугоўванню пацыентаў і значна аблегчыць працу медыкаў.

Застаецца адзначыць, акрамя слоў вялікай падзякі землякам з Канады за міласэрнасць, што ФРК накіроўвае ахвяраванні ў Беларусь праз пасрэдніцтва таварыства «Радзіма».

**Сцяпан АКОЎКА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ліятэках. Хачу падкрэсліць, што нашы навучэнцы з асаблівым задавальненнем працуюць у архівах. І я нават падумаў, што мы, мусіць, недаацэньваем тых навуковых спробаў, якімі валодаем. У свайго выпускніка італьянца Паола Гальвані я спытаў у апошні дзень яго знаходжання ў Мінску, куды ён хоча пайсці. І ён адказаў мне: «Пойдзем у бібліятэку».

Нашы слухачы маюць, акрамя навуковай, багатую культурную і экскурсійную праграму. Гэта таксама спрыяе хутчэйшаму авалоданню мовай. Мы наведваем тэатры, музеі, знаёмімся з Мінскам, Нясвіжам, Мірам, Навагрудкам, бываем у Вязынцы, Заслаўі, наведваем народныя святы, вывучаем фальклор, спяваем народныя песні, бо праз песню беларускае слова западае ў душу асабліва моцна.

Ну а як прыклад таго, як за кароткі час можна вывучыць мову, я хацеў бы расказаць пра ўжо згаданага італьянца Паола Гальвані, выпускніка Балонскага універсітэта. Вывучыўшы дома пяць замежных моў — рускую, кітайскую, англійскую, іспанскую, балгарскую, вырашыў авалодаць яшчэ і беларускай. За час вучобы ў нас ён зусім нядрэнна загаварыў па-беларуску, павёз з Мінска творы нашых паэтаў і празаікаў, каб перакласці іх на італьянскую мову.

**ВАС ЧАКАЕ МІЖНАРОДНАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСІСТЫКІ**

# МЫ ПАТРЭБНЫ СВЕТУ

**— Вашы слухачы — гэта людзі, якія абавязкова маюць нейкае дачыненне да мовазнаўства, гісторыі?**

— У асноўным так. Першымі слухачамі школы сталі віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў свету з Польшчы доктар М. Кандрацюк, прафесары Б. Франкоўска, А. Барташэвіч, Т. Левашкевіч, з Германіі доктар Н. Брэдэрлоў, тры студэнткі з Карлава універсітэта, якіх парэкамендаваў Янка Брыль. Сярод нашых слухачоў былі навуковыя супрацоўнікі, педагогі, студэнты, выкладчыкі, вядомыя ў навуковым свеце вучоныя-славісты.

Мы пераканаліся, што многа чаго маем такога, чым можам падзяліцца са светам. Некалі Скарына шукаў свае універсітэты за мяжой і ў Падуі пабываў. А цяпер у нас свае універсітэты.

**— Колькі навучэнцы плацяць за вучобу?**

— Хацеў бы падкрэсліць, што навучанне ў нас бясплатнае. Але гэта не значыць, што ні за што не трэба плаціць.

Мы бяром грошы за пражыванне: жывуць нашы студэнты ў гасцініцы ці ў інтэрнатах палепшанага тыпу; за трохразовае харчаванне; за экскурсійнае абслугоўванне і за культурную праграму. Падкрэслю таксама, што разлік ажыццяўляецца па індывідуальнай дамоўленасці абодвух бакоў. А гэта значыць, што ў залежнасці ад абставін, прадастаўленых паслуг у канчатковы разлік могуць быць унесены змены. Аплата ажыццяўляецца па камерцыйных цэнах пасля заканчэння вучобы, калі няцяжка падлічыць усе затраты.

**— Хто выкладае на курсах? Ці задавальняюць выкладчыкі патрабаванні навучэнцаў, наколькі высокі іх навуковы патэнцыял?**

— Лекцыі чытаюць надзвычай вядомыя ў Беларусі вучоныя-мовазнаўцы, літаратуразнаўцы, гісторыкі. Гэта Л. Шакун, А. Лойка, Я. Юхо, А. Мальдзіс, А. Грыцкевіч, У. Сакалоўскі, В. Шалькевіч, Ю. Хадыка — адным словам, усе лепшыя навуковыя сілы, якія ў нас ёсць. Па просьбе нашых слухачоў мы робім ксеракопіі навуковых артыкулаў, урокаў па беларускай мове і літаратуры, тэкстаў народных песень і нават фоназапісы фальклорных матэрыялаў. Пасля гэтага беларуская мова ўпершыню загучала ў замежных універсітэтах, дзе яе пачалі выкладаць нашы слухачы.

**— Дарэмна мы сябе недаацэньвалі, думалі, што нікому нецікавая і непатрэбная беларуская мова...**

— Так. Тое, што нецікава свайму народу, высока цэніцца за мяжой. Дзякуючы наладжаным за апошні час кантактам з навукоўцамі з іншых краін, сёння існуюць даволі моцныя цэнтры беларусазнаўства ў Цюрыху, мацуюцца сувязі з Шэфілдскім універсітэтам у Англіі. Дзякуючы намаганням вядомага вучонага-славіста Г Бідэра, у кастрычніку мінулага года быў праведзены Міжнародны сімпозіум «Моўная і культурная палітыка на Беларусі».

**— А ваша школа праводзіць якія-небудзь міжнародныя канферэнцыі або сімпозіумы?**

— У час сёлетняй сесіі мы правядзём навуковую канферэнцыю «Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа». На заканчэнне вучобы ў МШБ адбудзецца сімпозіум беларусістаў свету на тэму: «Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету», прымеркаваны да 110-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры. Спадзяюся, што да нас прыедзе нямала цікавых людзей.

**— Ці мае ваша школа падтрымку ад дзяржавы?**

— Толькі разава, калі папросім, як ад спонсара. А так нас у мінулым годзе падтрымалі Фонд культуры, Саюз пісьменнікаў, універсітэт, уласна кажучы, ад якога мы пастаянна сілкуемся. Міжнародная школа беларусістыкі — самастойная культурна-асветная ўстанова. Мы пачалі сваю працу ва ўмовах самафінансавання і самаакупнасці. Мы і далей ставім на мэце самастойнае ажыццяўленне знешняй эканамічнай і культурнай дзейнасці, гатовы да заключэння кантрактаў з замежнымі партнёрамі, да стварэння сумесных навукова-культурных праграм. Хацелася б, каб у нас наладжваліся больш цесныя сувязі з зарубежнымі землякамі, каб яны не абыходзілі нас сваёй увагай, болей прысылалі сваіх дзяцей, бо беларуская мова для іх не чужая і зямля беларуская — іх зямля. Не варта пра гэта забываць і шырэй ісці з намі на кантакты, абменьвацца студэнтамі. **Грамадскія арганізацыі, аб'яднанні, таварыствы, суполкі ў Беларусі і за яе межамі могуць накіроўваць сваіх слухачоў на вучобу ў МШБ у любы зручны для іх час і на любы тэрмін, неабходны для падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі, навуковай стажыроўкі, выканання навуковых даследаванняў.**

Мне будучыня нашай школы чамусьці ўяўляецца аптымістычнай. Думаю, мы будзем існаваць і далей, таму што цікавасць да нас пастаянная і заўсёды знойдуцца людзі, якія захочуць стаць багацейшымі на адну мову.

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## БЕГЛЫ АГЛЯД СУЧАСНАГА СТАНУ МІНСКА

Гаворачы пра Чаховіча, прыгадайма думку пана Шэмеша пра гэтага нашага знакамітага мастака:

«Чаховіч, калі гаварыць пра так званы матэрыяльны бок яго таленту, належыць да эпохі заняпаду італьянскага жывапісу. Малюнак яго, хоць і чысты, але ўсё ж манерны, часта неахайны; большая частка галоў на ягоных палотнах, а таксама шмат рук наўздзіў прыгожыя. Што ж да анёлаў, то, здаецца, што часта яны проста запаўняюць прастору з-за лішняга ўшанавання мастаком традыцый — аднак не раз можна сустрэць сярод іх напраўду цудоўную дзіцячую постаць. Драпіроўкі ягоныя цяжкія, амаль скураныя. Аднак, нягледзячы на гэтыя недахопы, хто з нас, мастакоў, не хацеў бы быць Чаховічам?

Чаховіч па духу належыць да першабытнага мастацтва, што асвятлялася чыстаю і наіўнаю верай. Кожная постаць на яго палотнах пазначана такім глыбокім рэлігійным пачуццём, якое нашу думку адразу ж адводзіць далёка ад XVIII стагоддзя. У тагачасным каталіцкім свеце толькі ў Польшчы мог яшчэ захавацца такі мастак».

Не хацелася б абмінаць тых чатырнаццаці абразоў, на якіх паказана Хрыстова пакута. Адзінаццаць з іх — даволі пасрэдныя копіі з Дамініхіна і паходзяць з Нясвіжа ад часоў князя Кароля Радзівіла. Адзін абраз яшчэ пры жыцці біскупа Дадэркі дамаляваў згаданы ўжо Анташэўскі, наследуючы кампазіцыю і каларыт Дамініхіна, але так спяшаўся, што аднаму з катаў даў дзве правыя рукі. Два апошнія абразы, г. зн. «Зняцце з крыжа» і «Пакладзенне Хрыста ў гроб», намаляваныя за два гады да таго.

Агледзеўшы галоўную частку касцёла, звернемся да іншых. Направа — капліца святой Тройцы. Шчодрым фундатарам яе быў Цыпрыян Павел Бжастоўскі, троцкі ваявода, асаблівы дабрадзей езуітаў, пра якога Нясецкі гаворыць, што, сыплючы грошы на патрэбы краю, з Богам ён таксама шчодра дзяліўся,— віленскім езуітам адпісаў 50 000 польскіх злотых, мінскім падараваў багаты абраз Святой Дзевы Марыі, адпісаўшы таксама 50 000.

Быў гэта бацька вядомага віленскага біскупа — чалавек заможны, багаты і за многія заслугі ў краі ўшанаваны. Але нашае пра яго агульнае ўражанне пазбавіла абаяльнасці адна дэталь, запісаная ў Нясецкага і законам у 1670 годзе пацверджаная: аказваецца, ён прыняў ад Рэчы Паспалітай 15 000 польскіх злотых у якасці кампенсацыі тых грошай, што патраціў на грамадскія паслугі. Мог ён па сто тысяч аддаваць езуітам, але не выдзеліў хоць бы дзесятай часткі гэтай сумы свайму краю, дастатак якога, хто таго не ведае, быў па тым часе даволі мізэрны.

У капліцы святой Тройцы ёсць яго партрэт, палатно пасрэднае, але прыцягальнае выяваю наіўнай праўды. У пана ваяводы даволі адметная худая фізіяномія, паважная і нават крыху скептычная. Надзіва ненатуральна складзенымі пальцамі белых рук (можа, гэта зламыснасць самога мастака) трымаецца ён за пояс, накручаны паверх багатага палевага жупана, зашпіленага на мноства гузікаў з дарагімі камянямі. Вакол партрэта надпіс па-польску, што ўслаўляе яго дабрадзейскія адносіны да езуітаў.

У левай частцы касцёла — капліца святога Феліцыяна, рыцара і пакутніка, з целам гэтага святога, якое падараваў мінскі ваявода Крыштаф Завіша. У алтары вялікі разбяны крыж з Хрыстовым распяццем; пад ім срэбная труна з рэліквіямі, на ёй ляжыць цудоўны пазалочаны шлем, абвіты лаўрам і пальмаю — атрыбуты святога. Заўважым, што ў гэтай капліцы больш, чым у іншых месцах касцёла, збіраецца вернікаў на малітву. Святы Феліцыян быў слынным на ўсю Літву патронам.

У глыбіні скляпення з чатырох бакоў лацінскія надпісы паведамляюць, што фундатар капліцы — Крыштаф Завіша, на той час — старадубскі староста, і што ён, стаўшы мінскім ваяводам, падараваў гэтай святыні цела святога Феліцыяна (1713); што ў часе пажару касцёла ў 1797 годзе цела святога было перанесена ў касцёл бенедыкцінак і што, нарэшце, біскуп Дадэрка вярнуў яго ў капліцу пасля яе адбудовы ў 1799 годзе.

У зброі, з блакітнаю ордэнскаю стужкаю ўвекавечыўся Завіша на партрэце, змешчаным у капліцы святога Феліцыяна. Меў гэты чалавек даволі вядомыя заслугі перад айчынаю, тры разы быў маршалкам дэпутацкай палаты і апроч Мінскага ваяводства, якое атрымаў пасля Уладзіслава Сапегі, быў старастам мінскім, чэрскім і дамінскім. Праславіўся таксама як добры прамоўца, выдаў некалькі твораў: «Водгук салодкагалосай мелодыі» (Варшава, 1728); «Гісторыя несмяротнага Бога, што ў смяротным целе пакутуе» (Вільня, 1721) і інш.

У кафедральнай закрыстыі змешчаны партрэты езуіцкіх дабрачынцаў: Канстанта Бжастоўскага — біскупа віленскага, Сымона Міхоўскага — каноніка смаленскага, Марціна Агінскага — канцлера, і Марціна-Казіміра Валадковіча; усе партрэты зроблены пасрэдна, пад апошнім з іх літары, што, напэўна, абазначаюць ініцыялы мастака. Тая ж пасрэднасць пэндзля ўласціва партрэту мінскіх канонікаў і прэлатаў (сярод якіх фігуруе ксёндз Катэнбрык, нясвіжскі плябан, вядомы з успамінаў Сапліцы прыдворны Радзівілаў).

Аднак пазней напісаныя карціны — лепшыя, як, напрыклад, копія з Дамеля партрэта ксяндза Паўла Равы, былога адміністратара Мінскай парафіі.

Вось і ўсё, што можам расказаць пра Мінскі кафедральны сабор пры яго беглым аглядзе. Не хапіла нам часу і магчымасці наведаць грабніцы або залезці на званіцу, дзе за езуіцкім часам быў невымернай велічыні звон, які называўся Янам Салагубам (прывезены з Крулеўца ў 1750 годзе і спачатку змешчаны ў драўлянай званіцы), з якога біскуп Дадэрка загадаў адліць два іншыя. Адзін з гэтых званоў, Якуб, цёзка біскупа, дасюль лічыцца найбольшым з усіх званоў, якія ёсць у мінскіх каталіцкіх святынях.

Кідаючы апошні позірк на муры святыні, трэба аддаць належнае намаганням яе аднаўлення ў 1853 і 1854 гадах, але немагчыма не ўздыхнуць над даволі няўдалым вынікам гэтага. Захавана трохі больш прастаты, аднята крыху стракатасці старога Дадэркаўскага стылю, адноўлены амвон, падноўлены фрэскі на скляпеннях — усё пацягнута белым колерам, не ашчаджаючы залацістай аздобы, але створаны выгляд у цэлым не шыкоўны: антычная адметнасць сцёрта, а новай не знайшлося.

Гэтае ўражанне, можа, занадта прыдзірлівае і староннее, і не дзіва, бо вочы ўжо прывыклі да цудоўных віленскіх святыняў, ад якіх вее непасрэднасцю і святою старажытнасцю гераічнага мінулага, на якое сталіца Літвы такая багатая.

Другі па чарзе нашага агляду касцёл, які ацалеў у Мінску, касцёл бернардзінцаў, фундатарам якога ў 1624 годзе быў Андрэй Кансоўскі, пра што яшчэ будзе расказана далей. Святыня ў выніку многіх пажараў і перабудоў значна змянілася. Не маючы часу дэталёва разгледзець усё аздабленне касцёла і нават даведацца, ці ёсць тут грабніцы Завішаў, пра якія ўспамінае Нясецкі, звярнулі мы ўвагу на жывапіс. Апішам яго пры дапамозе нататак таго ж А. Шэмеша. Вартыя ўвагі тут чатыры карціны, а менавіта: святая Тэкля, што напаўпрылегла ў гроце і прыціскае да грудзей крыж, зялёная драпіра акрывае яе плечы і грудзі.

Святая Марыя Магдалена таксама ў гроце, таксама напаўляжыць, абапіраючыся на руку, але ружовая драпіра прыкрывае яе толькі злёгку.

Мастак хацеў падкрэсліць прыгожыя формы пакутніцы, ды, відаць, ідэал жанчыны звёўся тут да прыгожага цела, і мастак не пашкадаваў сваёй гераіні гэтага хараства. Вобразу нестае грацыі, але малюнак зроблены дасканала.

Групавы абраз — Езус, Марыя і святы Юзаф — даволі добрае палатно: Марыя ў глыбіні карціны, дзіця ў ценю і святы Юзаф — галоўны вобраз карціны, які, дзякуючы своеасаблівай фантазіі мастака, мае такое пахмурнае аблічча і такі пагрозлівы позірк, што пан Шэмеш успамінае, як ён у маленстве баяўся нават глядзець гэткае «малявідла».

Абраз святой Ганны з Дзеваю Марыяй і маленькім Езусам вабіць сваёю непасрэднасцю. Мастак не змог узняцца над зямным ідэалам, крыху правінцыйна зразумеў і выканаў задачу. Маці Божая, якая трымае пялёнкі, выглядае такою сабе паспалітаю кабетаю, маладою, ружовашчокаю, усмешліваю; святая Ганна, дабрадушная бабуля, у каптуры з шырокаю аблямоўкаю, замілавана глядзіць на ўнука, які ўсміхаецца да яе з матчыных каленяў. Чатыры гэтыя карціны, хоць і не шэдэўры, усё ж заслугоўваюць увагі.

У касцельнай закрыстыі ёсць тры добрыя партрэты: генерала Мараўскага, Станішэўскага і Чапскай — філантропаў гэтага кляштару. У другой закрыстыі некалькі партрэтаў невядомай шляхты, палотны даволі пасрэднага жывапісу. Сярод іншых — партрэт знакамітага Валадковіча, расстралянага ў Мінску ў часе трыбуналу ў 1760 годзе. Вядомы гэты гайдамак тым, што быў пакравіцелем бернардзінаў, мусіў перад іх канфесіяналамі ліць пакутныя слёзы, а шчодраю міластыняй, што сыпаў на Божыя алтары, спадзяваўся адкупіць свае грахі. Але не быў ён бязбожнікам, здольным наўмысна замахнуцца на крыж: проста ў маладосці ён — вясёлы гуляка, якіх у Польшчы было нямала, а ў канцы жыцця — пакутнік духу.

Занадта мала набраўшы матэрыялу ў дачыненні да касцёла і кляштара тутэйшых бернардзінаў, мы хацелі займець тлумачэнне ад саміх манахаў. Але адзін з нашых сяброў, якога ўдалося ўгаварыць сабраць мясцовы матэрыял, трапіў пад злыя насмешкі мясцовай улады. Адгаворваліся ад яго і тым, і гэтым, не паказалі нават бібліятэкі, якая пасля пажару ўсё яшчэ не прыведзена да ладу. Пажар той быў у 1835 годзе! Але за дваццаць гадоў так і не сабраліся ўпарадкаваць тут кнігасховішча!

Касцёл бенедыкцінак на Сабornай вуліцы, апрача старых абразоў святых Бенедыкта і Схаластыкі, а таксама некалькі старасвецкіх аргентэрый, нічога адметнага не мае. Знешні яго выгляд, з мансардаю і дзвюма даволі стройнымі чатырохбакавымі вежамі, імпануе сваёю старажытнасцю, асабліва сярод пераважна сучаснай забудовы Мінска, дзе як бы наўмысна сціраліся рысы мінулага. Гэтым прывабным духам старажытнасці дыхае цудоўны непабелены цяпер касцёл францысканаў на так званай Нова-Францысканскай вуліцы, блізка Нізкага рынку.

Стары касцёл дамініканаў, пра заснаванне якога ў належным месцы раскажам, цяпер, разам з кляштарам, служыць памяшканнем для рымска-каталіцкай семінарыі.

Апрача касцёлаў, у Мінску ёсць яшчэ пару капліц у межах горада: у мурах названай семінарыі і ў доме дабрачыннасці.

У цудоўна адноўленым апошнім часам кафедральным грэка-расейскім саборы святых Пятра і Паўла асаблівай увагі заслугоўвае абраз Збавіцеля, выкананы ў візантыйскім стылі мастаком панам Ксенафонтавым, вучнем Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Абраз гэты апраўлены ў прыгожую разбяную раму работы пана Ягорава.

З усіх іншых абразоў таго ж Ксенафонтава, што ўяўляюць сабою разнастайныя копіі ў новым стылі, вылучаецца абраз Божага Уваскрашэння, іншыя ж прыцягваюць увагу толькі ўдалымі дэталямі. Вылучаецца таксама палатно пана Сарокіна «Пераўвасабленне Божае».

Каштавалі гэтыя копіі 2 800 рублёў срэбрам.

Да грэка-расейскага веравызнання належыць таксама сабор святой Кацярыны ў канцы горада, царква ў прадмесці Пярэспа пры Віленскім тракце, а таксама пяць капліц — у гарадскім лазарэце, у вайсковым лазарэце і ў турме.

Згадвалі мы ўжо пра лютэранскі касцёл у Новым горадзе, пабудаваны дзесяць гадоў назад, адметны прыгожаю архітэктураю.

З жыхароў нехрысціянскага веравызнання татары тут маюць сваю мячэць, жыды — адну сінагогу, а таксама 10 мураваных і 15 драўляных малельных дамоў.

У Мінску налічваецца 9 могільнікаў (два рымска-каталіцкія — на Залатой горцы і на Кальварыі), два грэка-расейскія, адзін лютэранскі, адзін магаметанскі, два жыдоўскія і могільнік, што называецца Рудзене пры Койданаўскім тракце. З іх усіх наведаў я толькі адну Кальварыю, як заўсёды, у кампаніі слаўнага Шэмеша. Цудоўным маёвым вечарам паехалі мы агледзець гэты арыстакратычны Мінскі могільнік, размешчаны ў паўночна-заходнім баку, за тры вярсты ад гарадскіх муроў. Цяністая бярозавая алея рабіла мілейшым вечаровы халадок; выгляд буйной збажыны радаваў сэрца, і, расчуленыя, але не сумныя, ехалі мы пабачыць месца вечнага супачынку. Спыніліся перад мураванаю брамаю, якая была чыімсьці надмагільным помнікам, заслоненым густымі дрэвамі, з-за якіх маляўніча выглядвалі таксама мураваныя помнікі. Кіраўніцтва плябані дало нам ключы ад капліцы, якую мы моўчкі агледзелі. Сама капліца, пабудаваная ў першых гадах бягучага стагоддзя панам Паўлікоўскім, мае за вялікім алтаром велічную фрэску — выяву гары Ерусалімскай кальварыі, жалобнай крыжовай Галгофы.

У цэнтры гэтай фрэскі вялікі, у пазалочанай раме, абраз Хрыста, які лічыцца адным з найлепшых твораў Дамеля. Пад гэтымі сімваламі пакуты і смерці, пад заслонаю тварэння ўласнага пэндзля, пад вялікім алтаром спачываюць астанкі самога Дамеля. Ані ў капліцы, ані ў надворнай яе сцяне грабніцы мастака няма — маўзалеем яму служыць уласны твор*.

Два бакавыя алтары капліцы ўяўляюць сабою як бы дзве грабніцы; у адной з іх, па правым баку ад уваходу, спачывае Матэвуш Ліпскі, мінскі біскуп. Нарадзіўся ў 1771 годзе, памёр у 1839.

Працяг. Пачатак у №№ 29, 30.




* Пасля ад'езду з Мінска атрымалі мы паведамленне, што мінулым летам 1855 года ў Кальварыйскую капліцу ўдарыў пярун, крыху пашкодзіўшы згаданае палатно Дамеля.

# «МНОГАЯ ЛЕТА» Ў ГОНАР ЛІТАРОВІЧАЎ,
## або
## ШТО ТРЭБА ЧАЛАВЕКУ ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Падлога ў іх уся засцелена мяккім, рознакаляровым дывановым пакрыццём — ногі тонуць у ім, як у траве. На кожным паверсе па 3-4 пакоі.

Ні Лявон, ні Ліза не лічаць сябе багатымі людзьмі. Так, кажуць яны, жыве большасць амерыканцаў, якія сумленна працуюць. А пачыналі яны, між іншым, з нуля.

— У Амерыку мы прыехалі ў 1950 годзе,— кажа Лявон.— А да таго шэсць гадоў прабылі ў лагерах у Нямеччыне. Не дай Божа, як нацярпеліся. Абарваныя, галодныя, застрашаныя, мы нічога не мелі. Памятаю, выправіліся работу шукаць. Не ведалі, дзе аўтобус спыняецца, куды ідзе, як папытацца пра гэта тутэйшых жыхароў. Але ж мы з братам знайшлі працу на цагельні. Работа там была надзвычай цяжкая: увойдзеш у печ, дзе цэгла гарачая,— скура, здаецца, лопаецца. Пару месяцаў вытрымалі. Пасля знайшлі працу на фабрыцы, дзе цыгарэтную паперу выраблююць. Там я і прарабіў 39 гадоў. Спачатку рабочым, а пасля інспектарам, які адказвае за якасць вырабаў.

Пасля Нямеччыны Амерыка здавалася нашым беларусам раем. Бацька Лявона, які меў астму і якому доктар увесь час забараняў курыць, казаў дагэтуль: «Памру, а не кіну!» Калі ж апынуўся ў Амерыцы, убачыў, як тут жывуць, сказаў: «Тут, напэўна, Бог пасяліўся, і я хачу як мага болей пажыць». З таго часу дзеці не бачылі яго з цыгарэтай.

У Лізы, якая трапіла ў Амерыку разам з бацькамі і братамі таксама з Нямеччыны, — свае ўспаміны ад сустрэчы з гэтай краінай. Іх сям'ю ўзяла пад апеку царква ў Пенсільваніі. Кожны тыдзень прыходзіў аўтобус, прывозілі ежу, адзенне — выбірай што хочаш. Пазней багаты фабрыкант, які іх забраў у якасці работнікаў, арандаваў для эмігрантаў дом. І яны паўгода не плацілі яму, пакуль не знайшлі работу.

Нашым землякам было цяжка на чужыне, нягледзячы на тое, што Амерыка прыняла іх ласкава. Мясцовыя жыхары дапамагалі ўстаць на ногі. У Пенсільваніі, дзе пасялілася спачатку Лізіна сям'я, яны аказаліся адзінымі эмігрантамі з Беларусі. А цягнула да сваіх. Праз некаторы час даведаліся, што ў Саўт-Рыверы многа беларусаў, хутка зняліся з месца і пераехалі туды. Там яны — Ліза і Лёня — і сустрэліся на імянінах у Надзі Кудасавай, пакахаліся і звязалі свае лёсы назаўсёды. Лізе тады было 19, Лявону трошкі болей. Як два маладыя дрэўцы, з коранем вырваныя з роднай глебы і занесеныя ветрам у далёкі край, яны пачалі прыжывацца і прыстасоўвацца да новых умоў. А таксама наладжваць у беларускім асяроддзі сваё беларускае жыццё. Шмат сіл і намаганняў прыклаў і асабіста спадар Лявон Літаровіч, каб паўстала ў Саўт-Рыверы беларуская праваслаўная царква з грамадскім цэнтрам.

— Царква Ефрасінні Полацкай арганізавалася яшчэ ў 1950 годзе,— расказвае Л. Літаровіч,— але не мелі мы свайго будынка, бедныя былі. Арандавалі маленькі магазінчык спачатку, праз пару гадоў купілі жыдоўскую сінагогу, а тады сталі дабівацца ад горада, каб атрымаць кавалак зямлі для пабудовы царквы і грамадскага цэнтра. Горад прадаў нам за невялікі кошт — 3 400 долараў — 3 акры і чвэрць зямлі. У 1968 годзе пачалі будавацца.

Усё рабілі сваімі сіламі за ўласны кошт. Парафія была якіх 400 чалавек. Ад сям'і звычайна давалі па тысячы долараў. Тыя ж, што мелі бізнес, болей — па 4, а то і па 8 тысяч. Хто колькі мог. А гэта ж тады немалыя грошы былі!

Браты Кавалёвы кіравалі ўсім будаўніцтвам, спадар Цярпіцкі быў старшынёй царкоўнага камітэта, айцец протадыякан Алег Махнюк купал і іканастас зрабіў, Ірэна Рагалевіч распісала яго. Панікадзіла Мікалай Навіцкі купіў у Грэцыі за 3,5 тысячы долараў. Кожны ад сваёй сям'і заказваў ікону за свой кошт. Я ж у свой вольны час працаваў на ўзвядзенні царквы і нашай залі. Пасля абеду іду на фабрыку, дзе звычайна змена па 12-16 гадзін, а з раніцы — на будоўлю. Дзе толькі сілы браліся, дзіўлюся цяпер сам.

Напэўна, не такім ужо бязвоблачным было жыццё маладой сям'і Літаровічаў. Былі цяжкасці з мовай, і не адзін год, пакуль не сталі думаць па-англійску, а не перакладаць са сваёй беларускай. Але жылі яны з Богам у душы. Бог дапамагаў ім быць цярплівымі, міласэрнымі і спагадлівымі. Калі дзеці былі зусім малыя, то ў царкву на службу Ліза і Лявон насілі іх на руках, калі хлопцы падраслі — сталі прыслужнікамі ў свяшчэнніка. «Без Бога — не да парога»,— любіць паўтараць Лявон.

— Колькі мы маліліся Богу, каб перажыць вайну, каб не загінуць пад бомбамі, ад шалёнай кулі, ад голаду. Пачуў Бог нашы малітвы,— з глыбокім перакананнем у найвышэйшай справядлівасці, сіле і розуме кажа спадар Лявон Літаровіч.

Мусіць, і сапраўды Боскай ласкай застаўся ён жывы ў час вайны, калі пад Барысавам, дзе яны жылі, трапіў пад перастрэлку немцаў з атрадам партызан. Маці паслала тады Лявона занесці вазон да сястры. Ледзь выйшаў з вёскі, як на яго сыпануў з кустоў град куль. Сямігадовы ж брат яго, Валодзя, быў тады тройчы паранены, застаўся інвалідам.

Што яшчэ моцна засела ў дзіцячай памяці, ва ўспамінах пра Беларусь, адкуль усю іх сям'ю фашысты вывезлі на работы ў Нямеччыну?

— Бацька мой рабіў на пошце ў Барысаве, паважаны быў чалавек,— прыгадвае Лявон. — Наша сям'я, у адрозненне ад многіх іншых, што жывуць у Саўт-Рыверы, не мела ніякіх непрыемнасцей ад камуністаў. Мы не былі раскулачаныя. Ніхто, акрамя аднаго дзядзькі, не сядзеў у турме. Так што ў мяне быццам і няма падстаў мець нейкія крыўды на Саветы. Аднак успаміны мае дзіцячыя пакідаюць горкі асадак і расчараванне. Памятаю, як хадзіў у школу ў нейкім самаробным абутку накшталт лапцей. На ўроках настаўнікі нам часта тлумачылі, якія мы шчаслівыя дзеці, што нарадзіліся ў СССР, дзе пра нас так клапоціцца дзяржава. Мы так і думалі, дарэчы, хаця цяжка жылося, ежы не было — галадалі, а па вясне гнілую леташнюю бульбу збіралі.

Амаль 50 гадоў прайшло з таго часу, як Ліза і Лявон Літаровічы воляю абставін вымушаны былі апынуцца далёка-далёка ад сваёй радзімы. За доўгі гэты час яны так і не пабывалі на Беларусі. Лявон казаў мне, што ім вельмі хочацца паехаць туды, дзе яны нарадзіліся, дзе прайшло іх, хаця і не вельмі шчаслівае і раднасае, але незабыўнае дзяцінства. На пытанне, чаму вырашылі не вяртацца дамоў пасля вайны, бо ніякай жа віны не мелі перад савецкай уладай, Лявон, не раздумваючы, кажа:

— Баяліся, хаця сапраўды ніякіх грахоў не мелі. Гэта ж не сакрэт, што ўсіх, хто нават насільна быў вывезены ў Нямеччыну, там працаваў у час вайны, савецкія ўлады лічылі здраднікамі, прадажнікамі. Іх адпраўлялі ў лагеры, у ссылкі, як ненадзейных. Нічога добрага з таго вяртання не было б, самі ведаеце. Мы не толькі інтуітыўна адчувалі, якая бяда чакае на радзіме, нешта і ведалі. Калі скончылася вайна, то ў нашых лагерах, а мы жылі ў англельскай зоне, сталі паяўляцца афіцэры з ваенкаматаў, якія агітавалі ехаць дамоў. Некаторыя тады згадзіліся. Іх жа перавезлі ва Усходнюю Нямеччыну, а там сем'і параздзялялі, жанчын у адзін лагер, мужчын — у другі, дзяцей — у трэці. Тыя, што ўцяклі адтуль, расказалі нам пра ўсё гэта.

— А насільна не забіралі?

— Бывала і такое. Хапалі проста на вуліцы, садзілі ў грузавыя машыны і перавозілі у савецкую зону акупацыі. Як склаўся лёс тых людзей, ніхто не ведае, напэўна, трагічна. Разумееце, многія беларусы, рускія, украінцы вымушаны былі застацца на чужыне, выбраўшы жыццё ў эміграцыі замест несправядлівых абвінавачванняў і пакарання ў родным краі.

Нягледзячы ні на што, Ліза і Лявон захавалі чыстыя і светлыя ўспаміны аб сваёй няласкавай радзіме, павагу і спачуванне да яе шматпакутнага народа. Штотыдзень у сваёй царкве, штодня перад хатняй іконай яны моляцца за Беларусь, за беларускі народ, за тое, каб стаў ён сапраўды шчаслівым і свабодным. «Радзіма заўсёды застанецца радзімай, — кажа Лявон, — родная мова, пачутая ад маці, заўсёды будзе роднай, не забудзецца. Хаця я ў свой час добра вывучыў нямецкую, размаўляў, а потым, трапіўшы ў Амерыку, не карыстаўся ёю і забыўся. Ад Беларусі ж адарваны з дзяцінства, але, як бачыце, размаўляю з вамі так, як быццам і не пакідаў Барысаў, хіба можа акцэнт толькі з'явіўся».

Ліза і Лявон Літаровічы, як мне здаецца, так і не сталі сапраўднымі амерыканцамі, прагматычнымі ва ўчынках і паводзінах. Іх беларускасць захавалася і ў спосабе мыслення, і ў своеасаблівай разважлівасці, памяркоўнасці, у чыста славянскім альтруізме і адкрытасці натуры, схільнай да самаахвярнасці.

Іх старшы сын Расціслаў (Ростл па-тутэйшаму) і разумее, і размаўляе па-беларуску, праўда, не так добра, як бацькі. Радзіму бацькоў ён уяўляе краінай бяроз. Ростл праяўляе цікавасць да Беларусі таксама, хаця стараецца не афішыраваць яе. Калі з Беларусі прыязджаюць сваякі, а то і проста незнаёмыя людзі, ён імкнецца паказаць гасцям «сваю» Амерыку, пагаварыць з імі, пабыць разам, каб, магчыма, лепш зразумець і сябе, і бацькоў, і той народ, да якога належыць.

Сям'я нашых землякоў — Лізы і Лявона Літаровічаў, напэўна, не унікальная, і я не збіраюся ідэалізаваць яе. Хаця сем'і, вядома, існуюць розныя. Бывае, жывуць разам, лічыцца, што сям'ёй, а на самай справе кожны паасобку: кожны сам па сабе, без асаблівай прыхільнасці і маральных абавязкаў адзін перад адным. У прынцыпе такое суіснаванне цяжка назваць сям'ёй. У Літаровічаў жа моцная, у нечым патрыярхальная сям'я, дзе захаваліся духоўныя сувязі паміж старэйшымі і малодшымі, дзе адносіны сагрэты душэўнай цеплынёй і любоўю. Так, любоўю, якою ганарацца, пражыўшы разам сорак гадоў, муж і жонка Літаровічы. Калі летам 1991 года стала кепска Лявону і яму зрабілі аперацыю, Ліза, як толькі дазволілі наведаць мужа, купіла прыгожы святочны паветраны шарык, якія дораць адзін аднаму звычайна маладыя закаханыя. На ім было напісана тры словы — I love you. Ростл сфатаграфаваў тады сваіх бацькоў у клініцы з гэтым шарыкам. А Літаровічы падарылі той здымак мне на памяць.

Спытаеце, а ці былі ў гэтай сям'і праблемы з дзецьмі і якія? Не ўтрымалася ад пытання і я.

— Безумоўна, маладыя іначшыя, чым мы, з гэтым нельга не лічыцца, але ж калі бацькі перастаюць кантраляваць іх, даюць поўную свабоду і тыя робяць усё, што прыйдзе ў галаву, то дабра ад іх чакаць цяжка. Мы гадавалі траіх і таксама сутыкнуліся з праблемамі пераходнага ўзросту, — прызнаўся Лявон. — Але асаблівых цяжкасцей не адчулі, жылі заўсёды дружна.

...Цяпер я часта прыгадваю сям'ю Літаровічаў з Саўт-Рывера. Калі ад'язджала, прыйшоў сустрэцца брат Лявона— Уладзімір. Той самы, што дзіцёнкам быў паранены ў сутычцы немцаў з партызанамі. Мы сядзелі ў засаджаным кветкамі ідылічным дворыку, і толькі пусты рукаў кашулі Уладзіміра Літаровіча нагадваў пра перажытае ім, пра трагічныя падзеі вайны. Неяк нечакана я прыгадала ў той момант магілу пляменніка братоў Літаровічаў — Яўгена Селіванава. Ён ляжыць на могілках пры царкве святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы. Сёння яму было б 40, а загінуў у 30, маладым, прыгожым, у росквіце сіл на в'етнамскай вайне. Якая злая і жорсткая іронія лёсу, падумалася. Нават і тут, у благаслаўлёнай Богам, квітнеючай Амерыцы нельга быць упэўненым у шчаслівай будучыні сваіх дзяцей.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# Здзіслаў СТОМА



**Беларускае сцэнічнае мастацтва панесла вялікую страту. 21 ліпеня на 85-м годзе жыцця памёр Здзіслаў Францавіч Стома, выдатны акцёр, прадстаўнік славутай кагорты майстроў купалаўскай сцэны.**

**Здзіслаў Стома нарадзіўся 4 (17) жніўня 1907 года ў Мінску. Свой творчы шлях пачаў у 1929 годзе на сцэне Польскага тэатра БССР. Пасля яго закрыцця працаваў у тэатрах Украіны, у Беларускім тэатры юнага гледача, а з 1940 года звязаў свой лёс з БДТ-1 (Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы).**

**На купалаўскай сцэне яскрава расквітнеў непаўторны талент Здзіслава Стомы, выдатнага вострахарактарнага камедыйнага артыста. Створаныя ім вобразы назаўсёды ўвайшлі ў летапіс нацыянальнага сцэнічнага мастацтва. Гэта Быкоўскі і Пустарэвіч («Паўлінка» Я. Купалы), Куторга («Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча), Глушак («Людзі на балоце» І. Мележа), Бураўчык («Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона), Караўкін («Брама неўміручасці» К. Крапівы), Лявон («Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка) і шэраг іншых. Дасканалае валоданне мовай, жэстам, мімікай, пластыкай, багатая выяўленчая палітра індывідуальных фарбаў, схільнасць да імправізацыі, спалучэнне псіхалагічнага аналізу з выразным знешнім малюнкам вылучаюць многія ролі, сыграныя Здзіславам Стомам у спектаклях па творах М. Гогаля, А. Астроўскага, Ф. Дастаеўскага, А. Чэхава, У. Шэкспіра, К. Гальдоні, В. Гюго і іншых класікаў сусветнай літаратуры і сучасных айчынных і замежных аўтараў.**

**Плённа працаваў Здзіслаў Стома ў беларускім кінематографе, на радыё і тэлебачанні. У апошнія гады раскрыўся яшчэ адзін бок яго таленту — ён пісаў вельмі цікавыя сучасныя паэтычныя казкі для самых маленькіх слухачоў і чытачоў.**

**Здзіслаў Стома прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі, у жыцці Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Ён быў народным артыстам СССР і БССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў і медалямі.**

**У некралогу, падпісаным Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам, Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам, дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі, пісьменнікамі і артыстамі, гаворыцца, што да апошніх сваіх дзён ён заставаўся ў купалаўскім калектыве. Нават калі па стану здароўя не мог выступаць на сцэне, быў разам з тэатрам, удзельнічаў у акцёрскіх сходках, глядзеў усе новыя спектаклі.**

**Жыццё Здзіслава Стомы — прыклад самаадданага служэння абранай прафесіі, служэння і вернасці свайму народу і сваёй Бацькаўшчыне. Памяць аб ім будзе вечна жыць у нашых сэрцах.**

## ПІСЬМЕННІКІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ НА СТАРОНКАХ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

Віктар ШВЕД

### МАЯ МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край,
Тут басаном стаптаў сцяжыны,
Што пралеглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Гамонку шчырую, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты — даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.

Зося САЧКО

***

прызываеш поле з колосістым
збуожом
свою дочку ясну думку
выліті радугу на всё
— сьміэшно
нэ прыдаті біды
— завшэ выходзіш як по
пэршум
звонкові

чужэю піэсьнёю грызешся
як пры огніэ
строітісь — нэохота
росткі
— зайчыка злапаю з стіны
за прыпіэвкі
— што
ждэш на слово
правдзівшэ од тэбе

***

а дніэ як тэплы звіэры
мручат і труцьця коло нуог
называют тое домом
і дуом удома
пора встрычаті вэсну

на прызбі
ліниво розгортвавшы сонце
росплесті коріэне

а ногі побігут

Уладзімір ГАЙДУК

***

Маладосць маю бестурботную
Першым подыхам восень
кранае.
Толькі марамі верш
недакончаны
Затаіўся у шэрым тумане.

Да яго я ішоў гадамі,
Прыставаў, затаміўшыся
ў скібах,
Выціраў горкі пот рукавамі,
Каштаваў яго смак журавінны.

Быў шчаслівы і сэрца дрыжэла,
Як схапіў яго, нібы соннага
зайца;
Нёс душу гэты чорт адзічэлы
На загубу ў шалёным танцы.

А, бывала, няраз ап'янелы
вясною
Салавей заспявае ў ляшчыне.
Акунуся ў той час з галавою —
Райскай песні глытаю матывы.

Людзі ціхім паэтам пагарду
З насмешкай даюць у заплату.
Ветраком будзь! Бунтарным
штандарам!
Смела ідзі на распяцце!

Не! ляпей да зямлі прыхіліцца,
Яна — маці, яна — святая
І яна ніколі не скрыўдзіць,
У сабе яна шчасце трымае.

Маладосць мая бестурботная
Расплылася, як дым з папяросы.
А здаецца, што толькі ўчора
Напрасткі бег да школкі босы.

Васіль ПЕТРУЧУК

# САСНОВАЕ ГАЛЛЁ

(АПАВЯДАННЕ)

Раніцай малы хлопчык прыгнаў карову з пашы, бо ведаў, што маці мусіць яе выдаіць, каб мець малако на снеданне, а й самому вельмі есці хацелася. Так было кожнага дня: цёмна выганяў на так званы поранак, калі ўжо сонейка падымалася ўверх так, што ягоны цень раўняўся шасці-сямі крокам, прыганяў жывёліну дамоў. Пасля снядання зноў выганяў і тоўкся з ёю аж да захаду сонца.

Кожнага дня баяўся вяртацца з пашы, бо ведаў, што мама заўсёды знойдзе прычыну, каб яго паляскаць па галаве або кіем «абламаць» бакі. Сёння толькі ўвайшоў на падворак, а мама ўжо яго чакала: выскачыла з хаты ды пачала малога акладаць рознымі гадкімі эпітэтамі ў сваім стылі за тое, што сырыя альховыя дровы ў печы не гараць, а толькі «кіснуць» і дымяць. А трэба ж прыгатаваць бульбу на снеданне, бо іншыя людзі ўжо даўно пайшлі ў поле.

Малы злякаўся, што зноў за штосьці дастане, шмыгнуў за клуню. Маці крычыць да яго з-пад хлява:

— Калі ты, знайдацкая твая морда, не прынясеш з лесу сухіх дроў, дык не прыходзь дадому, бо я табе пакажу, на чым свіння хвост носіць, каб цябе скрутыло!!!

Хлопчык ужо ведаў, у чым справа. Прыкра яму было, бо ногі балелі і надта есці хацелася. Але што можа зрабіць бездапаможнае, перапалоханае сабачаня? Заплакаў з гора і пайшоў у лес аж пад вёску Чахі Арлянскія. Зайшоў да Грэцюшчыны, дзе найбольш спадзяваўся сухога хмызу. Назбіраў ношу сухога сасновага галля і нясе, каб дагадзіць маці і зарабіць на бульбу. Аж няведама адкуль, нібы з зямлі вырас перад ім гаёвы. Хлопчык з хмызам ходу, каб уцячы, а гаёвы ўдагонкі. Бягучы стукнуў ботам хлопчыка ў зад, і той пакаціўся. Гаёвы забраў ад яго з рук галлё і кінуў на куст ядлоўцу, а сам наступіў на хлопчыкаву спіну і пытае, навошта ён крадзе з лесу дровы?

Хлопчык ляжыць, плача, але не ведае, як лепш сказаць, — не гаворыць нічога. Гаёвы доўга не пэцкаецца: зняў з нагі бот і давай малому выбіваць з галавы ахвоту хадзіць у лес за сухімі «дровамі».

Шчаня вярнулася дадому без хворасту. Хаця й быў заплаканы, ніхто яму не паверыў, што быў у лесе. Мама яшчэ далажыла да таго, што атрымаў ад гаёвага, ды без ніякага ўсяго вынудзіла гнаць у поле карову, не даўшы нават бульбінкі.

Бацька ўсё гэта бачыў і маўчаў.

## НАРОДНЫ МАЙСТАР СЯМЁН ШАЎРОЎ






Такога гонару пры жыцці ўдастойваецца далёка не кожны мастак. Народнаму ж майстру Сямёну Шаўрову пашанцавала. Яму суджана было прысутнічаць на адкрыцці ў Оршы музея яго драўлянай скульптуры.

У экспазіцыі — больш за сто работ: скульптурныя партрэты герояў твораў Я. Купалы, І. Крылова, А. Пушкіна. Прататыпамі многіх твораў Шаўрова сталі яго сябры, родныя, блізкія. Усе работы Сямёна Сцяпанавіча дынамічныя, прасякнуты добрым гумарам.

НА ЗДЫМКАХ: народны майстар Сямён ШАЎРОЎ; яго работа «Цыганскі танец»; урачыстае адкрыццё музея драўлянай скульптуры Сямёна Шаўрова.

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.



## ВІРТУОЗ— ЁН І Ў КАНАДЗЕ ВІРТУОЗ

У Манрэалі адбыўся міжнародны конкурс піяністаў. Сярод лаўрэатаў—наш зямляк Сяргей Мікулік.

Ён, нядаўні выпускнік Беларускай кансерваторыі, цяпер займаецца ў аспірантуры ў Маскве.

У конкурсе ў Канадзе ўдзельнічала пяць музыкантаў з краін былога Саюза—акрамя Беларусі, таксама з Прыбалтыкі, Расіі, Украіны. Сяргей Мікулік стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу не ўпершыню. І гэта сведчыць аб тым, што ў нашай рэспубліцы ёсць таленавітыя музыканты, музычныя школы міжнароднага ўзроўню.

## МАКАЎКА ЛЕТА





**Макаўка лета, полудзень... На беразе абмялелага без дажджоў Нёмана гуртам збіліся каровы, шукаючы паратунку ад сляпнёў і аваднёў у густых зарасніках вольхі ці пад разгалістымі вербамі. Зрэдку паміж копамі сена на лугах бачыш і коней, якія стаяць нерухома, стомленыя гарачынёй. І птушак не прываблівае ў палёт бяскрайняя сінь неба.**
**Узгадваюцца словы паэта аб такім надвор'і:**

**«На небе ані хмары...**
**Такой часінай дня**
**Густая, быццам пара,**
**Стаіць гарачыня».**

**І ўсё ж—цудоўная пара! Бо радуюць вока і кветкі па берагах ракі, і кружыць, нават крышачку дурманіць галаву пах свежага сена, і прыемна ахалоджвае цела, калі акунешся ў чыстую ваду Нёмана... Хочацца дыхаць на поўныя грудзі, радавацца летняй прыгажосці, радавацца жыццю.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## КОНКУРС

**УВАГА!!!**

**ВЯЛІКІ КОНКУРС ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ ДЛЯ ЗАМЯЖЫ**

**ПОЛЬСКАЕ РАДЫЁ ДЛЯ ЗАМЯЖЫ АБВЯШЧАЕ КОНКУРС З УЗНАГАРОДАМІ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ ПЕРАДАЧ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ**

**КАБ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У КОНКУРСЕ, ХОПІЦЬ ВЫСЛАЦЬ НА АДРАС ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ СВАЕ ДУМКІ ПРА НАШЫ ПЕРАДАЧЫ АБО ПРА ЧУТНАСЦЬ НАШЫХ ПЕРАДАЧ У ЭФІРЫ.**

**НАВАТ КАЛІ ТЫ НЕ З'ЯЎЛЯЕШСЯ НАШЫМ СЛУХАЧОМ—МОЖАШ ІМ СТАЦЦА, НАПІШЫ ДА НАС — МЫ ПРЫШЛЕМ ТАБЕ ПРАГРАМУ І ТЭХНІЧНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА ЎМОВЫ ПРЫЁМУ НАШЫХ ПЕРАДАЧ.**

**УСЕ ПІСЬМЫ ПРЫМУЦЬ УДЗЕЛ У ЛЁСАВАННІ!!!**

**ГАЛОЎНАЙ УЗНАГАРОДАЙ БУДЗЕ РАДЫЁМАГНІТАФОН З КАРОТКІМІ ХВАЛЯМІ.**

**АПРАЧА ГЭТАГА МНОГІЯ ДРУГІЯ ЎЗНАГАРОДЫ.**

**ТЭРМІН, КАБ ПРЫСЛАЦЬ АДКАЗ НА КОНКУРС,—ДА ПЕРШАГА ВЕРАСНЯ. РАШАЦЬ БУДЗЕ ДАТА ПАШТОВАГА ШТЭМПЕЛЯ. ВЫНІКІ КОНКУРСУ АБВЯСЦІМ 30-ГА ВЕРАСНЯ.**

**НАШ АДРАС: БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ, 00—950 ВАРШАВА, Р. О. ВОХ 46, ПОЛЬШЧА.**

**УВАГА: У АДНЫМ КАНВЕРЦЕ, З НАДПІСАМ «КОНКУРС», МОЖНА ПРЫСЛАЦЬ ДАВОЛЬНУЮ КОЛЬКАСЦЬ АДКАЗАЎ — КОЖНЫ З ІХ ПРЫМЕ УДЗЕЛ У ЛЁСАВАННІ.**

**ПЕРАДАЧЫ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ГУЧАЦЬ ШТОДЗЁННА НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ 41.99, 49.22 ДЫ 200 МЕТРАЎ АД ГАДЗІНЫ 7.30 ДА 7.55 І НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ 41.18, 41.99, 49.22 АД ГАДЗІНЫ 21.00 ДА 21.25 МЕНСКАГА ЧАСУ.**

**ДАРОЖНАЯ КАРАЦЕЛЬКА**

## ВАНДА

...Наш аўтобус, які рухаўся з Навагрудка ў Мінск, пад'язджаў да прыпынку ў Міры.

Зніжаючы хуткасць, вадзіцель раптам стаў азірацца ва ўсе бакі.

— Што там здарылася? — заклапочана падумалася мне. — Няўжо нейкая перашкода ўзнікла?

Пакуль я строіў дагадку, шафёр выключыў матор, павярнуўся да пасажыраў з паблажлівай усмешкай:

— Папрашу падрыхтаваць білеты для праверкі кантралёру.

Мы дружна палезлі ў свае кішэні, кашалькі, сумачкі.

Адчыніліся дзверы аўтобуса, і ў салоне паказалася галава... каня. Той перакрыў выхад і нікога не выпускаў. Ніякія нашы намаганні прагнаць яго не давалі вынікаў.

— Пакуль не пачастуеце, нічога не будзе,— папярэдзіў шафёр.— Я яго ведаю ўжо не першы дзень.

Пачастункаў, вядома, у нас было многа. І праз хвіліну да мызы каня пацягнуліся рукі з кавалачкамі хлеба, пячэннем, яблыкамі. Конь паволі адступіў ад выхаду, смачна хрумстаючы ласункамі.

Але з'есці ўсё не паспеў. Аднекуль з'явіўся гаспадар.

— Ванда,— стаў лаяць ён каня.— Ізноў ты тут, колькі можна? Нібы жабрачка якая...

Разы са два сцебануў каня пугай, але не вельмі балюча, бо жывёліна адышла толькі крокаў на пяць і спакойна паглядала то на нас, то на гаспадара.

А той толькі рукамі развёў.

— І адкуль яна час гэтага рэйса ведае! — скардзіўся ён на сваю любіміцу.— Ніводнага дня не праходзіць, каб не прыскакала да аўтобуснай. І спутаю, і прывяжу — сарвецца, а прыскача.

...Я слухаў гаспадара і думаў: «Вось ехалі мы ўсе ў Мінск нейкія млявыя, сонныя, задуменныя ад прадчування клопатаў, што чакалі нас наперадзе. А такі «кантралёр» нас і добра пацешыў, і рассмяшыў, і яшчэ ўнёс часцінку нейкай дабрыні ў нашы душы. Незнаёмыя пасажыры, нібы тыя старыя сябры, абмяркоўвалі гэты выпадак аж да самага Мінска.

І дарога, што засталася ад Міра, здалася нам не такой нуднай і доўгай у гэты гарачы ліпеньскі дзень.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ЗНАХОДКІ**

## СТАГОДДЗІ—НЕ ПЕРАШКОДА

У XVIII стагоддзе па падказцы і пры непасрэдным удзеле супрацоўніка Навукова-даследчага інстытута гісторыі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, нязменнага даследчыка полацкай даўніны Сяргея Тарасава «адправіліся» археолагі, а «трапілі» ў стагоддзе... XII.

Усё правільна разлічыў Сяргей Васільевіч, грунтуючыся на архіўных матэрыялах, уласным вопыце і інтуіцыі: на тэрыторыі Верхняга замка пад слоем зямлі аказаліся рэшткі сцен Базыльянскага манастыра, у архітэктурны ансамбль якога два стагоддзі назад уваходзіў і славуты Сафійскі сабор, што застаўся палачанам у спадчыну амаль што не з часоў «Слова аб палку Ігаравым». Але варта было толькі заглыбіцца, як натрапілі на больш старажытныя матэрыялы, якія недвухсэнсава сведчылі, што здавён-даўна тут стаяў храм...

Унікальныя знаходкі трэба будзе дэталёва вывучыць, каб са стракатай мазаікі скласці выразную карціну. Але ўжо ясна: старадаўні Полацк адкрывае свае тайны не спяшаючыся і пакрысе. Ды і то толькі самым настойлівым наследнікам незлічонага багацця слаўнай гісторыі зямлі беларускай.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1359.
Падпісана да друку 24.07.1992.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12